ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 40 (96) 2 - 8 сьнежня 1994 г. Кошт 50 рублёў

*Калі дзяржава зарабляе грошы на здароўі свайго народа, у яе няма будучыні* - ст. 2.

*Ён кінуў цень на ўсіх супрацоўнікаў універсітэта. Але гэта толькі пачатак* - ст. 5.

*500 доларaў штопанядзелак... Але інтэнсіўная праца выматвала да апошняй кроплі* - ст. 4.

*ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск – Варшава – Масква - Санкт-Пецярбург.*

## ПІКЕТ ПАД БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫМ СЬЦЯГАМ

**26 лістапада сёлета па рашэньню Гарадзенскай рады БНФ у цэнтры Горадні ў скверы на Савецкай плошчы быў наладжаны пікет у гонар 74-ых угодкаў Слуцкага паўстаньня супраць бальшавікоў. Адначасова зьбіраліся подпісы пад лістом-заявай да прэзідэнта ў абарону нашай сёньняшняй дзяржаўнай сімволікі, распаўсюджвалася фронтаўская літаратура і газета “Пагоня”, праводзіўся запіс сумленных і сьвядомых гарадзенцаў у Беларускі Народны Фронт “Адраджэньне”, ішлі агітацыйна-тлумачальныя размовы з зацікаўленымі жыхарамі Горадні.**

Бянтэжыць нас тое, што пра Слуцкае паўстаньне, пра ўзброеную барацьбу беларусаў супраць бальшавіцкай мярзоты амаль што ніхто не ведае. Калі пыталіся ў некаторых маладых, што яны ведаюць пра гэты збройны чын, амаль усе сарамліва паціскалі плячыма, а іншыя адказвалі: “А мы тут при чем?”

Так, яны ні пры чым - гэта камуністычная сістэма нішчыла ўсё нацыянальнае і выхоўвала зомбі-інтэрнацыяналістаў.

Людзкі натоўп каля пікету гаварыў аб набалелым: аб той карупцыі і мафіі, з якімі абяцаў змагацца прэзідэнт адразу, як прыйдзе да ўлады.

Не абыйшлося і без правакацыйных выступаў. Малады чалавек, добра апрануты, у сініх (для сьляпых) акулярах з аднадумцам дэмагагічна і доўга распавядалі старую байку, што нам без Расеі нікуды: няма энерганосьбітаў, нічога якаснага не ўмеем рабіць і таму не трэба гэтых пікетаў, бо няма ў нас ні бедных, ні жабракоў. Аднак у большасьці людзі пераконваліся ў неабходнасьці больш актыўных дзеяньняў БНФ у гэты складаны час, падыходзілі да стала і падпісваліся пад заявай у абарону бел-чырвона-белага сьцяга і герба “Пагоня”. Каля 350-ці подпісаў сабраў пікет за тры гадзіны. У шэрагі БНФ запісаліся 30 чалавек, у тым ліку больш за 20 - моладзь.

Уразіла нас шчырая размова з маладым хлопцам Андрэем, які ўжо адслужыў у войску і па сёньняшні дзень нідзе не змог уладкавацца на працу па спецыяльнасьці тынкоўшчык. І вось ён і яму падобныя стаяць на рынку і таргуюць чым прыйдзецца. Але ж такая “праца” ім ужо дастаткова абрыдла. Большасьць з моладзі хоча нармальна працаваць і атрымліваць дастатковую для чалавечага жыцьця зарплату. Як не круці, а падмануў прэзідэнт, паабяцаўшы “запусьціць заводы”, стварыць новыя рабочыя месцы. Таму яны і галасавалі за яго. А, можа, не хлусіў, а шчыра прызнаваўся, бо як нядарны гаспадар запускае свой агарод, сваю жывёліну і ўвогуле ўсю гаспадарку, так і наш прэзідэнт да назначанага тэрміну “запусьціць” усе заводы і фабрыкі!

**Яўген НЁМАН.**

## ЗВАРОТ ДА ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АД ЖЫХАРОЎ Г.ГОРАДНІ

*Мы, жыхары нашай роднай краіны Беларусь, зьвяртаемся да Прэзідэнта Беларусі з запытам: колькі разоў будуць пэўныя сілы мяняць Канстытуцыю і дабаўляць папраўкі да яе?*

*Бальшавікі мянялі Канстытуцыю некалькі разоў так, як ім хацелася, як ім было выгадна - народ быў у змане, і Савецкі Саюз мусіў разваліцца. Чаму? Таму што інтарэсы народа ніхто не абараняў. Наадварот, інтарэсамі народа злоўжывалі прайдзісьветы ад ЦК КПСС.*

*Даведаўшыся аб стварэньні Прэзідыумам Вярхоўнага Савета часовай камісіі па пытаньнях дзяржаўнай сімволікі, мы, сумленныя жыхары Беларусі, не можам маўчаць, калі зьневажаюць дзяржаўны герб, сьцяг. Таму што настаў другі час - народ цяпер патрабуе шанаваць наш герб, сьцяг, дзяржаўную мову. Трэба даць адпор розным чырвона-карычневым сілам, якія, як наросты на жывым целе, паратызуюць на нашым сумленьні, а наўзамен прапануюць нам то “рублёвую зону”, то “дзьвюхмоўе”.*

*Спадар Прэзідэнт!*

*Мы патрабуем выконваць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, каб і з Вашых вуснаў не зьневажаўся герб, сьцяг, дзяржаўная мова і каб была дадзена свабода сродкам масавай інфармацыі, а пэўным антынародным сілам (тыпу “Славянскі Сабор”, ЛДП, Саюз афіцэраў і інш.) была дадзена Вамі за іх антыдзяржаўную дзейнасьць адпаведная адзнака.*

*Толькі беларуская мова, толькі наш герб “Пагоня”, толькі наш бел-чырвона-белы сьцяг!*

*Жыве Беларусь!*

**г.Горадня, 22.11. 94 г.**



## СІМ ПАВЕДАМЛЯЕ

Група дэпутатаў апазіцыі Беларускага Народнага Фронту накіравала адкрыты ліст Прэзідэнту, у якім сказана, што ў любой краіне, якая ідзе па шляху дэмакратыі, палітычным сілам гарантуецца магчымасьць зьвяртацца да грамадзян праз сродкі масавай інфармацыі. Дэпутаты апазіцыі неаднаразова зьвярталіся да кіраўніцтва дзяржтэлерадыёкампаніі з просьбай даць ім эфірны час. Як вядома, такая магчымасьцьгарантуецца законам аб статуце дэпутата. Тым не менш, кіраўніцтва тэлерадыёкампаніі ігнаруе патрабаваньні дэпутатаў. Таму дэпутаты апазіцыі просяць А.Лукашэнку асабіста даць апазіцыі ў Вярхоўным Савеце 45 хвілін эфірнага часу 28 лістапада ў прамежку ад 21.00 да 23.00 гадзін.

Аднак такой магчымасьці для дэпутатаў БНФ 28 лістапада не было дадзена.

* * *

На гэтым тыдні дэпутаты Вярхоўнага Савета, магчыма, заслухаюць даклад свайго калегі С.Антончыка аб карупцыі ў шэрагах прэзідэнцкай каманды. Як заявіў нашаму карэспандэнту аўтар, даклад ужо гатовы, але ён прагучыць толькі ў прысутнасьці прэзідэнта. Таксама С.Антончык заявіў, што ў дакладзе фігуруе звыш 40 чалавек з атачэньня прэзідэнта. "Я буду прадстаўляць канкрэтныя факты, дакументы, што даказваюць карумпаванасьць прэзідэнцкага атачэньня. Жадаю бачыць рэакцыю А.Лукашэнкі. Да таго ж, падчас дакладу можа паўстаць пытаньне аб адстаўцы некаторых ключавых фігур ва ўрадзе".

* * *

Эксміністр МА Беларусі П.Казлоўскі, выступаючы перад групай журналістаў, заявіў:

- Праз паўгады беларускае войска будзе немагчыма аднавіць. Пад пагрозай знаходзіцца яго баявая гатоўнасьць і бясьпека маладой дзяржавы. Наўмыснае аслабленьне войска і ўмацаваньне КДБ, МУС азначае будаўніцтва паліцэйскай дзяржавы. Ужо сёньня расходы на войска можна параўнаць з расходамі двух вышэйзгаданых структур. На днях баявы 334-ы полк перададзены ў распараджэньне МУС.

Адхілены, на думку эксміністра, па палітычных матывах генералітэт мае намер ініцыяваць парламенцкія слуханьні па пытаньню дзяржаўнай бясьпекі.

Яшчэ П.Казлоўскі патрабуе разгляду яго грамадзянскага іску да спадара А.Лукашэнкі.

Эксміністр па-ранейшаму носіць вайсковы строй, дзе на пагонах блішчаць тры зоркі.

**СІМ**

## КАЛІ ЎЛАДЫ СЬПЯЦЬ

Актывісты Беларускага Народнага Фронту, сябры Дэмакратычнага аб’яднаньня ветэранаў Горадні вырашылі на ўласныя сродкі аднавіць беларускую сьвятыню - знак “Пагоня на Грунвальд”, які нядаўна з мэтай нажывы скралі зламысьнікі.

Вырашана, што знак “Пагоня на Грунвальд” будзе адліты з чыгуна.

## СЬВЯТОЕ МЕСЦА ПУСТЫМ НЕ БЫВАЕ

Дачакаліся новага начальства супрацоўнікі Гарадзенскай філіі нацыянальнай тэлерадыёкампаніі. Вакантную пасаду старшыні заняў былы супрацоўнік Гарадзенскага абкама КПБ Вячаслаў Баламут.

Пасьля развалу ЦК КПСС і часовай забароны дзейнасьці камуністых на Беларусі спадар Баламут працаваў уласным карэспандэнтам саўмінаўскай газеты “Рэспубліка”.

**А.ГРЭЦКІ.**

## РАСКАШЭЛІЛІСЯ

28 мільёнаў рублёў выдзеліў са свайго бюджэту Лідзкі гарвыканкам для аказаньня матэрыяльнай дапамогі інвалідам ВАВ і інвалідам з дзяцінства.

**Г.А.**

## ВЕТЭРАНЫ ГУРТУЮЦЦА

27 лістапада адбыўся сход Дэмакратычнага аб’яднаньня ветэранаў г.Горадні.

На сход былі запрошаны дэпутат Вярхоўнага Савета М.Маркевіч і прадстаўнік мясцовых улад А.Мілінкевіч. У сваім выступленьні старшыня Дэмакратычнага аб’яднаньня ветэранаў М.А.Мельнікаў адзначыў, што арганізацыйным камітэтам была праведзена значная работа па стварэньню альтэрнатыўнай ветэранскай арганізацыі.

Цяпер Дэмакратычнае аб’яднаньне ветэранаў афіцыйна зарэгістравана і дзейнічае. Галоўнай мэтай сваёй дзейнасьці арганізацыя ставіць абарону інтарэсаў і правоў ветэранаў, аказаньне ім усялякай дапамогі. Прамоўца зьвярнуўся да ветэранаў з заклікам сьмялей адстойваць свае інтарэсы, згуртоўвацца вакол ветэранскай арганізацыі і прыходзіць да рады ДАВ з любымі пытаньнямі.

Спадар Мельнікаў падзякаваў мясцовай уладзе за аказаную дапамогу пры стварэньні арганізацыі і выдзяленьні памяшканьня. Ад дня сходу Дэмакратычнае аб’яднаньне ветэранаў будзе разьмяшчацца па вуліцы Савецкай N 31, пакой N 12 (першы паверх).

Пасьля заканчэньня афіцыйнай часткі быў наладжаны канцэрт.

**В.ЖУК.**







# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## АДКРЫТЫ ЛІСТ ПРЭЗІДЭНТУ БЕЛАРУСІ А.Р.ЛУКАШЭНКУ

Тыя апошнія падзеі, што адбыліся ў нашым грамадзтве, вымушаюць мяне зьвярнуцца да Вас з шэрагам пытаньняў.

Ужо сёньня ўсім зразумела, што некаторыя пункты Вашай Праграмы не будуць выкананыя. Інфляцыя складае 30 працэнтаў у месяц, і да канца года зьнізіць яе да 10 працэнтаў ніхто не здолее. Заводы не запушчаны, цэны растуць у шмат разоў хутчэй, чым зарплата.

У сваёй перадвыбарчай кампаніі Вы заяўлялі зусім адваротнае і казалі, што гатовы несьці за гэта адказнасьць. Таму ў мяне да Вас, шаноўны Прэзідэнт, пытаньне. Ці гатовы Вы перад народам несьці адказнасьць за невыкананьне сваіх перадвыбарчых абяцаньняў? Ці, можа, як у старыя часы, знойдзеце крайняга і ўсе памылкі сьпіхнеце на яго?

Далей. Некаторыя Вашы дзеяньні ў зьнешняй і ўнутранай палітыцы палохаюць, а некаторыя мяне як беларуса нават абражаюць. Вы, заяўляючы аб тым, што абараняеце інтарэсы народа сваім законам аб "прэзідэнцкай вертыкалі", пазбавілі мяне і ўвесь народ канстытуцыйнага права абіраць кіраўнікоў мясцовай улады. Народ стаў яшчэ больш бяспраўным. Ён не зможа ўплываць на мясцовую наменклатуру хоць як выбаршчык. А гэта - шлях да падхалімства, яшчэ большага росквіту карупцыі.

Калі Вы заяўляеце аб скарачэньні штатаў у органах дзяржаўнай улады, то трэба гэтае скарачэньне альбо праводзіць, альбо не рабіць такіх заяў, бо дзяржаўны чыноўнік знаходзіцца ў падвешаным стане, не ведае, будзе ён заўтра працаваць ці не. А гэта не спрыяе добрай работе.

Калі Вы робіце заяву, што цэны павінны быць зьніжаны, а хто не выканае гэтае распараджэньне, будзе арыштаваны, мяне ахоплівае жах. Зноў будуць арыштоўваць без усялякіх падстаў? Ці не 37-ы гэта год?

Дарэчы, Ваш загад аб зьніжэньні цэн нанёс нашай эканоміцы шматмільённыя страты.

Шаноўны Аляксандр Рыгоравіч, яшчэ нікому ў сьвеце не ўдавалася пабудаваць рынкавую эканоміку загадамі, не ўдасца і Вам. Зразумейце гэта, у рэшце рэшт, і адыйдзіце ад свайго папулізму.

І вось што яшчэ хачу Вам сказаць.

У апошні час радыёэфір запаланілі актывісты "Беларускага Патрыятычнага Руху". Яны нічога станоўчага не зрабілі, але ўжо вызначылі ворагаў. Дык хто ж гэтыя людзі, што не даюць Прэзідэнту праводзіць рэформы? Па словах лідэраў БПР, гэта, канешне ж, "махровые националисты", якія хочуць "поссорить братские белорусский и русский народы". І выступаюць гэтыя "патрыоты" ад імя Прэзідэнта.

Зразумейце, шаноўны Прэзідэнт, што за БНФ стаіць больш як 700.000 прыхільнікаў, і такімі заявамі Вы ствараеце канфрантацыю ў нашым грамадзтве, называючы нас, сапраўдных беларусаў, "националистами" і праціўнікамі рэформ.

Так, у пэўным сэнсе мы - "националисты", таму што любім сваю Бацькаўшчыну, свой народ, хочам людзьмі звацца, бо лічым сябе НАЦЫЯЙ, такой самай, як немцы, амерыканцы, шведы, расейцы. У нас свая гісторыя, свая культура, свая мова. І няма ніякіх "братских русского и белорусского народов" - гэта міф. Ёсьць толькі эканамічныя і палітычныя інтарэсы Расеі на тэрыторыі Беларусі. А менавіта: нафта- і газапроводы ў Эўропу, аўтамабільныя і чыгуначныя шляхі з Расеі на Захад, з Захаду - у Расею і далей у Азію. Усё гэта Расея хоча выкарыстоўваць бясплатна і выкарыстоўвае шляхам шантажу за нашыя даўгі. І апошнія падзеі - стварэньне фінансава-эканамічных груп і дамова пагранвойск дзяржаў СНД "Об охране внешних границ Содружества" - гэта не вельмі добра прыкрытая спроба захаваць гэтае расейскае панаваньне, і пакуль яно будзе захоўвацца, ніякія рэформы не пойдуць.

Гэта бачыць нават сьляпы, але толькі, на жаль, не Вы, шаноўны Прэзідэнт!

**С.ШАЎЧУК,**
**г.Горадня.**



**«БЫЦЬ ЦІ НЕ БЫЦЬ?» - ВОСЬ У ЧЫМ ПЫТАНЬНЕ.**

**Станіслаў СУДНІК**

## "БАЦЬКА"

Як казаў наш "бацька"
Ды свайму народу:
"Дам табе багацьце,
Дам табе свабоду,
Адбяру ў зладзеяў
Ўсё, што панакралі,
Сьцісну ліхадзеяў,
Каб не шыкавалі".
Ну і даў спачатку,
І, дальбог, не мала.
У разоў з дзесятак
Цэны паўзрасталі.
Уздыхаюць людцы,
Ціхенька бядуюць,
А паны ў палацах,
Як раней, пануюць.
Хто ў катэджы сёньня,
Той і права мае,
А калгасьнік цёмны
Порткі падцягае.
Пан не на этапе
І не сеў у кутузку,
Ты смакчы хоць лапу,
А панок есьць густку.
У паночка жона
Ў футрах пахаджае,
А твая Матрона
Буракі цягае.
Дык мо скажам "бацьку",
Бедны мой народзе,
Што мо годзе клятвам
І абманам годзе.
Як узяў за лейцы,
То кіруй, татуся,
Бо я сіратою
Лепей застануся.

## АБ'ЯВА

**Гарадзенская гарадзкая рада БНФ "Адраджэньне" запрашае ўсіх сваіх сяброў прыняць удзел у справаздачна-выбарчай канферэнцыі, якая адбудзецца 3 сьнежня (субота) па адрасу: вул.Леніна, 32 (былы Дом палітасьветы).**

**Пачатак канферэнцыі ў 11.00 гадзін.**
**Рэгістрацыя ўдзельнікаў з 10.00 гадзін.**

***ГАРАДЗЕНСКАЯ ГАРАДЗКАЯ РАДА БНФ "АДРАДЖЭНЬНЕ".***

# ГІБЕЮЧАЯ НАЦЫЯ

Успамінаю, як два гады назад, калі толькі яшчэ пачыналіся дзікунствы з цэнамі на лекі, акурат перад мітынгам, які праводзіў БНФ, я даведаўся з адказных крыніц пра атрыманыя аптэчным упраўленьнем напоўсакрэтныя тады яшчэ новыя цэны на медыкаменты. І калі на мітынгу я выступіў, распавёў пра нашу сістэму аховы здароўя і што яна ўсім нам рыхтуе - узьлёт цэн на лекі недзе ў 8-10 разоў - натоўп недаверліва загудзеў, а некаторыя прапагандысты сьветлай камуністычнай будучыні з імпэтам закрычалі, што БНФ уводзіць людзей у зман, палохае.

Гэта быў толькі пачатак узьлёту цэн на лекі і на ўсё астатняе. Але народ сьцярпеў гэта: ніякага ні шуму, ні абурэньня, як бы цям так і трэба. І мяшок развязаўся: цэны на Беларусі пачалі расьці амаль што кожны месяц. Гэты народ можна скруціць у бараньні рог - маўклівы, цярплівы.

А партнаменклатура, якая кіравала пры камуністах, і цяпер засталася пры ўладзе, і цяпер даводзіць беларускі народ да галечы, нацкоўвае просты люд на БНФ: ва ўсім вінаватыя дэмакраты, асабліва бэнээфаўцы, гэта, маўляў, яны разваліў Саюз.

Але дзе ж тыя дэмакраты? Ці перафарбаваўшаяся партнаменклатура, якая пакідала з перапалоху свае хлебныя кніжкі-партбілеты, але засталася працягваць кіраваць гаспадаркай і грамадзтвам - гэта дэмакраты? Развальвае і абкрадвае Беларусь, беларускі працавіты народ усё тая ж партнаменклатура.

Народ павалі бядней: цэны на ўсё расьлі ў некалькі разоў, зарплата - на некалькі дзесяткаў працэнтаў. Асабліва агідна, звышамаральна для ўлад - узьвінчваньне цэн на лекі. Калі дзяржава зарабляе грошы на здароўі свайго народа, калі ад няспынна-шалёнага росту цэн і адчувальнага ўжо беспрацоўя гібее нацыя - гэта не дзяржава, у яе няма будучыні.

Вядома, што ёсьць ужо ў горадзе і камерцыйныя аптэкі, дзе можна прыдбаць любыя лекі. Але ж дзе простаму люду ўзяць грошы, калі ў гэтых аптэках лекі ў два-тры разы даражэйшыя, чым у звычайных. Затое ў дзяржаўных аптэках няма амаль што нічога. Сорамна хворым глядзець у вочы...

Аб трагедыі народа яскрава гаворыць той факт, што шмат хворых з ільготамі адмаўляюцца ад выкупа неабходных ім лекаў нават за дзесяць працэнтаў іх кошту. Такія хворыя вырашаюць для сябе жыцьцёвае пытаньне: лекі купіць - і тыдзень застацца без хлеба...

Праўда, шпаркія цэны ў нашай "агурковай" рэспубліцы іншы раз асаджваюцца назад. Гэта было сёлета вясною, калі Кебіч у Маскве "аб'ядноўваўся" з Расеяй, а на Беларусі без яго, зразумела ж, ведама ўзьнялі цэны на хлеба-малочныя прадукты. Вярнуўся бацька, даведаўся аб свавольстве міністраў і вярнуў цэны назад. А як жа інакш? За народ хварэў!

Ад вернутых цэн дзяржава ўсё роўна страціла шмат. Бо узьдымаць цэны на хлеба-булачныя вырабы трэба было значна раней, з адпаведнай кампенсацыяй народу, а не ганарыцца "стабільнасьцю" цэн на хлеб, якім вельмі доўга кармілі сваю жывёлу жыхары памежных абласьцей Расеі ды Прыбалтыкі.

На сёньняшні дзень вядома, што ізноў "чаўнакі" пачалі вывозіць прадукты харчаваньня ў Расею. Зноў нешта пераблытана ў прэзідэнцкай праграме надзвычайных мерапрыемстваў па выхаду з крызісу.

А цэны няўмольна растуць, нацыя бяднее. Зьбяднелая нацыя - гэта выміраючая нацыя, з якой у сьвеце ніхто не лічыцца.

БНФ зноў і зноў змагаецца за тое, каб абудзіць сьвядомасьць беларусаў, каб просты люд зразумеў, што будучыні ў жабрацкага народа няма.

І жывуць беларусы, як на вулкане, трасуцца, чакаючы новых узьлётаў цэн. А яны праз тыдзень-другі і "бабахнуць": то ў некалькі разоў падаражэлі камунальныя паслугі, электраэнергія, газ, то праезд у аўтобусах, на чыгунцы і шмат яшчэ што.

Але ж тут нашага прэзідэнта ад усіх намаганьняў, а, можа, ад пустых, але прыгожых абяцаньняў раптоўна разьбівае радыкуліт. І не абы які, не такі, як ва ўсіх сьмяротных, а прэзідэнцкі. І ў "агурковай" рэспубліцы, дзе дзейнічае былы ўсесаюзны цэнтр па лячэньню захворваньняў цэнтральнай і перыферычнай нярвовых сістэм, сярод адукаваных прафесараў ніводнага не знайшлося, каб мог лячыць прэзідэнцкі радыкуліт. І, плюючы на сваіх вучоных-медыкаў, на ўсю медыцынскую навуку, прэзідэнт гэтай дзяржавы едзе лячыцца да старэйшага брата - у Расею.

Але ж за час адсутнасьці бацькі зноў бадзёра падскочылі цэны, цяпер ужо на ўсё. І калі вярнуўся наш прэзідэнт, ужо здаровы, то пачаў вяртаць цэны назад. Ды не так, як калісьці Кебіч - аб'явай у газетах - а гучна, у выглядзе тэле-шоу з рабочага месца прэзідэнта, каб абавязкова народ бачыў, як прэзідэнт змагаецца за яго дабрабыт...

Прэзідэнт змагаецца, а народ бяднее. Усё часьцей у чэргах за хлебам стаяць адзінокія старыя, якім не хапае нават на чвэрць бохана. А ўладу трымаючыя зноў будуюць (бо былі спачатку прыціхлі, спалохаўшыся "барацьбіта" з карупцыяй) свае шыкоўныя катэджы, маючы прадбачліва выкупленыя шыкоўныя кватэры ў горадзе.

Дзяржава моцная, багатая розумам і назапашаным вопытам старых і стваральным імпэтам маладых. Гэта маладыя ствараюць нацыянальнае багацьце, самую нацыю праз першасную форму яе існаваньня - сям'ю. На сёньняшні дзень у Беларусі маладыя сем'і са страхам глядзяць у будучыню: кватэра - недасягальная, мэбля - амаль што недасягальная, адно дзіця - раскоша, два - жабрацтва.

І таму ў радзільных дамах зачыняюцца цэлыя аддзяленьні, ператвараюцца ў абартарыі. Катастрафічна зьмяншаецца нараджальнасьць: зьмяншаецца беларуская нацыя. Гарадзенская вобласьць, не самая бедная ў рэспубліцы, лідыруе па зьніжэньню нараджальнасьці.

Дык хто ж губіць Беларусь?!

Колькі ж можна зьдзеквацца над гэтым шматпакутным народам?

Няўжо беларусы - гэта нацыя пакараных Богам людзей?

**Я.КУХТА,**
**доктар**

## КРЫТЫКАВАЦЬ ЗАЎСЁДЫ ЛЯГЧЭЙ, ЧЫМ ВЫКОНВАЦЬ

Калі на Беларусі стала вядома імя першага Прэзідэнта рэспублікі А.Р.Лукашэнкі, я задумаўся. Спадар Лукашэнка быў абраны народным дэпутатам і з высокай трыбуны пасяджэньняў Вярхоўнага Савета рэзка крытыкаваў урад за непасьлядоўнасьць рынкавых рэформ, барацьбы з карупцыяй ды іншае. За гэта і ўзрасла папулярнасьць А.Лукашэнкі сярод людзей. Аўтарытэт рос не па днях і гадзінах, а па хвілінах. Многія казалі: вось гэта дэпутат, не тое, што іншыя, якія маўчаць. Асабліва папулярнасьць А.Лукашэнкі сярод людзей узьнялася таму, што ён зьяўляўся адзіным змагаром з карупцыяй на ўсіх узроўнях. І вось Аляксандр Рыгоравіч на пасадзе прэзідэнта ўжо больш за чатыры месяцы. І што? Карупцыя як гуляла, так і гуляе, і, можа, яшчэ больш, чым раней. Для бачнасьці вызвалены ад пасады толькі адзін міністр лясной гаспадаркі Маркоўскі, па справе якога вядзецца сьледства. А дзе ж тыя матэрыялы з патайнікоў прэзідэнта? Чаму прэзідэнт іх не аддае ў пракуратуру для разгляду?

А абяцанкі ў бліжэйшыя некалькі месяцаў спыніць зьніжэньне вытворчасьці і палепшыць жыцьцё людзей? Яны засталіся абяцанкамі. Аб гэтым сьведчаць факты. Вось яны. Інфляцыя з дня абраньня прэзідэнта да канца верасьня бягучага года склала 360 працэнтаў. Рост цэн апераджвае зарплату ў 14 разоў. Непрафесійна была праведзена дэнамінацыя "зайца", якая была на руку толькі мафіі. Асноўная ж маса людзей гэтай мерай была яшчэ больш даведзена да жабрацтва.

А.Лукашэнка многа гаворыць аб сацыяльнай абароне насельніцтва. Але ж гэта проста гук. Таму што ў гэтым накірунку нічога не робіцца. Таму што ў жабрацкай дзяржаве сацыяльна абараніць людзей нельга.

Апошнія падзеі, зьвязаныя з хваробай прэзідэнта і яго вяртаньнем да працы, зьніжэньнем цэн, - гэта нішто іншае, як папулізм. Вось бачыце, маўляў, як я клапачуся аб дабрабыце народа. А як аб гэтым гавораць людзі:

- Я проста не веру, - кажа адзін з пакупнікоў у краме, - што прэзідэнт не ведаў аб павышэньні цэн.

З абраньнем прэзідэнта здавалася, што ў дзяржаве павінна была спыніцца барацьба за ўладу, але, як бачна, гэтага не здарылася.

Выснова відавочная: крытыкаваць іншых лягчэй, чым самому вырашаць праблемы.

**І. Б.,**
**пенсіянер,**
**Гарадзенскі раён.**

# АД ВЯСКОВАГА ЛІРНІКА ДА ПЕСЬНЯРА

Уладзіслаў Сыракомля... Гэтае імя ў сярэдзіне XIX стагоддзя было добра вядома на Беларусі. Выдатны паэт, краязнаўца, Уладзіслаў Сыракомля (сапраўднае імя - Людвіг Кандратовіч) стаяў на самай вастрыні антыпрыгоньніцкага руху. У розныя часы расейскія і польскія літаратуразнаўцы яго называюць "сапраўдным народным паэтам".

Паўстае пытаньне: да якога канкрэтна народу належыў Ул. Сыракомля?

"Я - ліцьвін", - казаў паэт сваім сучасьнікам і падкрэсьліваў, што яго прадзед быў шчырым ліцьвінам. Сцьвярджаючы сваё паходжаньне, Ул. Сыракомля прызнаваўся ў сваіх творах: "Пра адно толькі сьпяваю, хоць на розны ноце: хай жыве наша Літва, хай жывуць ліцьвіны!"

Літвою, як і ўсе яго сучаснікі, ён найменаваў Беларусь. Тут, на зямлі Любанскай, у вёсцы Смольгі у 1823 годзе ён нарадзіўся. Менавіта на Палесьсі, а потым на Нясьвіжчыне пражыў беларускі лірык асноўную частку свайго жыцьця. Апошнія дзесяць год (1853-1862) прайшлі ў фальварку Барэйкаўшчына непадалёк Вільні. Блізкасьць Вільні і беларускія традыцыі, што склаліся за стагоддзі сярод насельніцтва краю, натхняюць паэта. Уладзіслаў Сыракомля шмат працуе. Пра гэты пэрыяд жыцьця і творчасьці паэта польскі літаратуразнаўца А.Брукнер піша так: "...сапраўдны песьняр беларускай зямлі, ні ў якім разе не літоўска-жмудзкай".

На жаль, Ул. Сыракомля большасьць сваіх твораў напісаў на польскай мове, мове тагачаснага пісьменства і справаводзтва. Праўда, было ў літаратурнай творчасьці паэта багата вершаў і на роднай мове. Але да нас дайшла нязначная частка беларускамоўнай спадчыны вясковага паэта-лірніка. На што ў свой час польскі крытык Ф.Беляк слушна заўважыў, што ва ўсім вінаватыя ваенныя падзеі таго часу, бо многія творы Ул. Сыракомлі хадзілі па літаратурных колах ў рукапісах. Асабліва гэта тычыцца яго вершаў "Вызваленьне сялян" і "Авідзій на Палесьсі".

Уладзіслаў Сыракомля шырока адчыняў дзьвery беларускамоўнай стыхіі ў сваіх творах, што пісаў па-польску. Але пры іх друкаваньні рэдактары імкнуліся "падгладзіць", "адрэдагаваць" мову паэта. Не змог пазьбегнуць гэтага і складальнік дзесяцітомнага збору твораў паэта ў 1872 годзе Вінцэсь Каратынскі. Але рэдактарам не заўсёды ўдавалася зьнішчыць беларускія элементы ў мове паэта.



Творы Ул. Сыракомлі вельмі лірычныя. Нездарма адзін з яго вершаў "Паштальён" у перакладзе на рускую мову стаў шырока вядомай рускай народнай песьняй "Ямшчык". У паэзіі вясковага лірыка знайшлі адбітак усе бакі беларускага жыцьця напярэдадні скасаваньня прыгоннага права.

Традыцыі народнасьці, якія выдатна выявіліся ў творчасьці Ул. Сыракомлі, плённа развіваліся ў творах больш маладых беларускіх літаратараў. Асабліва выдатна і трапна ўдавалася гэта Янку Купалу. Менавіта ён прысьвяціў такія радкі беларускаму лірніку Уладзіславу Сыракомлі.

Час патрапіць усё пакрыць, адалеці,  
Путы нават змарнеюць у плесьні,-  
Покі будзе душа хоць адна жыць на сьвеце,  
Будуць жыць і лірнікаў песьні.

Сабраў Г.АСТРОЎСКІ.

## ПРАПАНАВАНА АДКРЫЦЬ НЕБА ДЛЯ РАСЕІ

У камісіях Вярхоўнага Савета Беларусі распрацоўваецца пытаньне аб ратыфікацыі на цяперашняй сесіі Дагавора па адкрытаму небу, які рэспубліка ў ліку 25 дзяржаў-удзельніц НАТА і былога Варшаўскага дагавора падпісала 24 сакавіка 1992 года. Галоўная мэта дакумента - забясьпечыць магчымасьць яго ўдзельнікам зьдзяйсьняць аблёты тэрыторый для назіраньня за праводзімай вайсковай дзейнасьцю.

У ходзе беларуска-расейскіх кансультацый ужо дасягнута папярэдняя дамоўленасьць, што для "самалётаў-шпіёнаў" Беларусь дасьць магчымасьць рабіць у аэрапорце "Менск-2" дазапраўку.

Беларускае Міністэрства замежных спраў і Міністэрства абароны лічаць, што беларускі парламент павінен ратыфікаваць Дагавор прыблізна ў аднолькавы тэрмін з Расеяй. Інакш расейскі бок можа адмовіцца ад кааперацыі з Беларусьсю, а індывідуальны ўдзел у Дагаворы, на думку МЗС і МА, пагражае рэспубліцы істотнымі фінансавымі стратамі.

Наконт гэтага ёсьць і іншая думка.

Сакратар парламенцкай камісіі па пытаньнях разьвіцьця прамысловасьці, энергетыкі, транспарту і сувязі паведаміў, што Беларусі як незалежнай дзяржаве трэба альбо ратыфікаваць Дагавор на раўнапраўных умовах і не адкрываць сваё неба і аэрадром для расейскіх "самалётаў-шпіёнаў", альбо ўвогуле адмовіцца ад удзелу ў гэтым пакце.

Апошні варыянт не задавальняе Расею, якой будзе вельмі нязручна зьдзяйсьняць разьведвальныя палёты над Заходняй і Цэнтральнай Эўропай, бо Украіна пакуль таксама не ратыфікавала Дагавор, а краіны Балтыі яго нават не падпісвалі.

СІМ

# КАНЧАТКОВАЕ РАШЭНЬНЕ НЕ ПРЫНЯТА

У Менску адбыўся чарговы раунд перагавораў камісій па дэмаркацыі і дэлімітацыі беларуска-летувіскай мяжы.

Як паведаміў старшыня беларускай камісіі С.Агурцоў, на перагаворах у Менску паўсталі некаторыя рознагалосьсі па вызначэньню канкрэтных ліній мяжы. Для больш падрабязнага ўзгадненьня іх у пачатку сьнежня ў Вільню на чарговы раунд перагавораў накіруецца беларуская дэлегацыя. У сталіцы Летувы плануецца канчаткова ўзгадніць тэкст дагавора і прадставіць яго на ратыфікацыю міністэрствам замежных спраў абедзьвюх краін.

Летувіскі бок не спрабаваў ініцыяваць перагляд раней прынятага рашэньня па станцыі Гадуцішкі. У хуткім часе будзе падпісана асобнае пагадненьне. Яно будзе прадугледжваць перадачу Летуве будынка станцыі з абсталяваньнем, якое будзе рабіць дазіметрычныя замеры па вызначэньню ўзроўню радыяцыі на Ігналінскай АЭС. А зямлю, на якой знаходзіцца станцыя, Летува будзе арэндаваць у Беларусі.

СІМ.

*ПУНКТ ГЛЕДЖАНЬНЯ*

# ТАКІЯ МЫ ВОСЬ!

Культурным грамадзтвам лічаць тое, якое ў належным парадку трымае могілкі. Калі хто бывае ў Заходніх дзяржавах, дык зьдзіўляецца, у якім добрым стане трымаюцца там могілкі, дзе пахаваны нашыя суайчыньнікі. А як у нас? Зусім іншы малюнак можна ўбачыць на могілках, што ў вёсцы Котра Абухаўскага сельскага савета. Тут былі могілкі нямецкіх салдат, загінуўшых падчас Першай сусьветнай вайны. У свой час месца пахаваньня было агароджана, з боку дарогі была ўваходная брама, а ў цэнтры могілак - арка з рэлігійным сімвалам. Але агароджа зьнікла, брама прапала, з аркі зьнялі рэлігійны сімвал, а замест магілаў зьяюць ямы. Іх раскапалі злачынцы, шукаючы каштоўнасьці. У такім непрыглядным выглядзе могілкі знаходзяцца і сёньня.

Калі ж могілкі прыйшлі ў заняпад? Падчас савецкай улады. Пры буржуазнай уладзе Польшчы яны трымаліся, як мае быць. Можна падумаць, што гэта адносіны да могілак, дзе пахаваныя варожыя салдаты для былай царскай дзяржавы. Але ж гэта не так. Каля г.Скідаля у лясным гаі "Бор" былі могілкі, дзе пахаваны жаўнеры Расейскай імперыі, загінуўшыя ў Першай сусьветнай вайне. І што ж? Гэтыя могілкі пасьля вайны зьнікі. Узвышша, на якім яны былі, раскапалі і разам з зямлёй і чалавечымі касьцямі вывезьлі на будоўлі. Цяпер тут на месцы могілак вырас сасновы лес, але сярод дрэў там-сям валяюцца чалавечыя рэшткі. І гэта не адзіны прыклад абыякавасьці.

На хутары вёскі Котра, на прысядзібным надзеле К.А.Цыплі была выяўлена магіла жаўнера Айчыннай вайны. Адны гавораць, што гэта савецкі, а другія - што нямецкі. Аб гэтым вядома не толькі ў Абухаўскім сельсавеце, але і ў раёне. Але ж прайшоў год, і ніхто не зьбіраецца рабіць перазахаваньне. Ці не зьдзек гэта?



**НА ЗДЫМКУ: арка на нямецкіх могілках у в.Котра.**  
**Фатаграфаваў Ільля БАРЫСАЎ.**

# ДА ІНТЭНСІЎНАЙ ПРАЦЫ МЫ НЕ ПРЫВЫКЛІ

**Валеры Семянчук скончыў Берасьцейскае музычнае вучылішча. Завочна - інстытут культуры. Працаваў па спецыяльнасьці, выкладчыкам сальфеджыо. Тры гады таму эміграваў да ЗША. Жыў у Нью-Джэрсі. Колькі часу таму ён ізноў аб'явіўся ў Горадні. Цяпер, як кажа сам, назаўжды.**

**Наша сустрэча з Валерам адбылася ў коле сяброў. Разгаварыць спадара "амерыканца" было нялёгка. Аповяд яго атрымаўся горкі, балючы.**

- Ехаў да Штатаў з вялікімі планамі-марамі. Хацелася распачаць свой бізнес, быць уласьнікам якой-небудзь фірмы ці хоць крамы. Далёкія родныя, якія далі мне запрашэньне, хоць і не гарантавалі дапамогі, але ў лістах нагадвалі, што я знайду сабе працу і, зарабіўшы грошай, змагу адкрыць сваю справу. "Амерыка - гэта краіна, якая кожнаму дае шанц", - лаканічна заканчвалі свае лісты родныя-амерыканцы.

Калі зышоў з борту самалёта, то падалося, што трапіў у краіну казак. Усё ў каляровых і неонавых рэкламах. На гэтым маё ўяўленьне пра краіну-казку і скончылася. Найперш пры пошуках працы паўстаў моўны бар'ер. Давялося на паўгады ісьці на курсы ангельскай мовы. Курсы платныя. Добра, што сваякі заплацілі за мяне, ды яшчэ кармілі і далі прытулак. (Як я потым даззнаўся, у іх не было іншага выйсьця, бо калі ў магістрацe яны ставілі пячатку на запрашэньне, то падпісалі паперу, што пакуль я не знайду працу, яны павінны мяне апекаваць. Пры невыкананьні ўмоў ім бы давялося плаціць у касу мэрыі грошы на маё ўтрыманьне).

Вывучэньне ангельскай мовы скончылася. Сваякі пажадалі хутчэй пазбавіцца праблемы. Якраз у паўночна-ўсходніх штатах пачыналася ўборка гароднiны. Агенцтвы, біржы па найму рабочай сілы запрашалі на сезонныя работы. Да адной такой фірмы і скіравалі мяне родныя.

Два месяцы непадалёк Нью-Джэрсі на плантацыі я зьбіраў памідоры, цыбулю, ківі. Грошы выдавалі кожны панядзелак. Упраўляючы выдаваў заробак у канвертах. Тым, хто меў рахунак у банку, рабіліся пераліки.

Пяцьсот доляраў штопанядзелак - выдатна. Але інтэнсіўная праца выматвала да апошніх сіл. Уявіце сабе пачатак працы а восьмай гадзіне раніцы. Тры гадзіны ты сартуеш таматы, падносіш да пункту адпраўкі.

**- Скажыце, а дзе ж славутая амерыканская аўтаматыка?**

- Яе хапае, не хвалюйцеся, не ў гэтым справа.

**- Тады ў чым жа праблема?**

- Савецкі чалавек жыве ўяўленьнямі самых буйных у Эўропе ці ў сьвеце камбінатаў, заводаў, фабрык. Амерыка - гэта таксама камбінат. Толькі з той розьніцай, што там, як крывяносныя сасуды, побач з вялікімі карпарацыямі існуюць зусім невялічкія фірмы. Я працаваў у фермера, які валодаў усяго 40 гектарамі зямлі. Прыкладна 25-30 працэнтаў займалі памідоры. Паліўка, прапалка былі аўтаматызаванымі. Збор ураджаю ручны. Ніхто ж, як чалавек, не адрозьніць сьпелы плод ад зялёнага ці гнілога. Як я ўжо казаў, здымаючы памідоры з кустоў, мы сартавалі іх. Буйныя ішлі на вытворчасьць усялякіх соўсаў, салатаў. Стандарт - да крамаў.

Працавалі звычайна па 10 гадзін з трыма паўгадзіннымі перапынкамі на сьняданак, абед і падвячорак.

**- Хто побач з вамі працаваў на плантацыі?**

- Пераважна выхадцы з лацінаамерыканскіх краін. Былі палякі, румыны, туркі, курды, в'етнамцы. Пераважная большасьць з іх так і жывуць. Наязджаюць да ЗША на сезон - вясной падчас пасадкі і ўвосень на ўборку. Праца пяць-шэсьць месяцаў у год іх задавальняе. Хапае заробку, каб пракарміць сям'ю. Курдам - яшчэ і на тое, каб зрабіць ахвяраваньні на бежанцаў. Дарэчы, ва ўсіх маіх "калегаў" па працы вялікія сем'і, па шэсьць, а то і болей дзяцей. Таму яны ніколі не пратэстуюць. Якую б па цяжкасьці працу ім не прапанавалі. Іншая справа - румыны, палякі. Панкі - так завуць выхадцаў з Польшчы - інтэнсіўна працаваць не хочуць. Шукаюць лягчэйшай працы. Напрыклад, націскаць кнопкі на транспарцёры ці пакаваць гародніну да скрынак. Пры гэтым яны любяць пакпіць: "Лацін, курд - у працы гурт, а палякі - не да працы."

**- Скажыце, чым займаецца ў час працы гаспадар?**

- У яго мноства спраў. Кантракты, канкурэнцыя тавару, узаемаразьлікі, абслугоўваньне тэхнікі, нагляд за якасьцю і яшчэ шмат дробязей. Гаспадар, а па-амерыканску фермер - гэта кіраўнік, бухгалтар, механік. Канешне, ёсьць дапамога з боку жонкі, дзяцей, але ў большасьці спраў рашаючае слова за гаспадаром.

**- Што, усе паломкі, арганізацыю працы, тэхналагічнага працэсу вырашае адзін чалавек?**

- Безумоўна не. Гаспадар заключае толькі дамовы. Трэба зрабіць прафілактыку ці рамонт абсталяваньня - дамаўляйся з спецыялізаванай фірмай. Жадаеш, каб твой тавар быў, як кажуць, па ўсім сьвеце, заключы адпаведную ўмову з дылерскімі фірмамі. Ведаеце, і так жыве ўся Амерыка. Ніхто не займаецца адразу ўсім. Кожны мае сваю дзялку работы і стараецца выконваць яе адмыслова. Адсюль, відаць, і такі вынік.

**- Ну, а адпачынак фермер хоць мае?**

- З ранку і да 18 гадзін усе працуюць. Шукаюць кліентаў, прапановы. Пасьля 18 гадзін банкі, установы, канторы зачыняюцца. Працоўны дзень скончаны. Што не вырашана сёньня, будзе зроблена заўтра. Больш на сёньня амерыканцам няма куды сьпяшацца. Яны едуць у бары, рэстараны, клубы. Слухаюць музыку, п'юць віскі, піва, віно. Вячэрні адпачынак доўжыцца да 11-12 гадзін. Затым усе едуць да хаты, каб назаўтра круціцца, на колькі стае моцы.

Што б вы пажадалі тым, хто зьбіраецца ехаць паспытаць сябе ў Амерыцы?

Рабіце гэта як мага раней. Прыкладна ў 22-25 год. У гэтым узросьце можна ўцягнуцца да рытмічнага амерыканскага стылю жыцьця. Калі вам пад 40, не ашуквайце сябе надзеяй, што ў вас яшчэ ёсьць час. Вам не зрабіць у гэтай краіне бізнесу. Не хопіць сілы, часу і трываласьці. Больш, на што можна разьлічваць - гэта на малакваліфікаваныя працы і невялікую рэнту па сацыяльнаму забесьпячэньню.

Г.АСТРОЎСКІ.

# ПЕРШЫ ЛЕТАПІСЕЦ НАШАЙ ГІСТОРЫІ

## Да 210-годдзя з дня нараджэньня і 130-годдзя з дня сьмерці Тэадора Яфімавіча Нарбута

У выніку вуніі Вялікага Княства Літоўскага з Рэччу Паспалітай і бесперапынных войнаў з Масковіяй беларускі народ стаў траціць сваё грамадзка-палітычнае аблічча. Зьнявечаная беларуская зямля апынулася на стыку двух патокаў асіміляцыі: з захаду - польскай і з усходу - рускай. Здавалася, ўжо ніщто не выратуе гэты народ. Але, нібы ад сутыкненьня рознапалюсных зарадаў, высяклася іскра, якая потым загарэлася агнём адраджэньня беларускай нацыі. Адным з першых змагароў за загубленую незалежнасьць стаў Тэадор Нарбут. Ён пакінуў значны сьлед у культурным жыцьці і патрыятычным руху на Беларусі і Літве.

Нарадзіўся Тэадор Нарбут у 1784 годзе ў радавым маёнтку Шаўры былога Лідзкага павета (цяпер калгас "Сьветлы шлях" Воранаўскага раёна). 15-гадовым юнаком паступіў на матэматычны факультэт Віленскага ўніверсітэта. У 1803 годзе здаў іспыты ў корпус ваенных інжынераў у С.Пецярбургу і атрымаў тытул выкладчыка ў другім кадэцкім корпусе. У 1804 г. быў разам з прускімі інжынерамі і займаўся рэгуляваньнем рэчышча Немана.

Т.Нарбут прымаў непасрэдны ўдзел у войнах з Францыяй (1807 г.) і Швецыяй (1808-1809 гг.) Быў два разы паранены, а ў бойцы пры Або ў Фінляндыі - моцна кантужаны. Узнагароджаны ордэнам Сьвятога Ўладзіміра і двума ардэнамі Ганны. Як вайсковы інжынер будаваў батарэі на востраве Ругене. Распрацоўваў праект і будаваў Бабруйскую крэпасьць.

Перанесеная кантузія і праца на балоце пры пабудове крэпасьці пазбавілі яго слыху. У 1812 годзе ў чыне інжынер-капітана ён выйшаў у адстаўку. Пасяліўся ў сваім маёнтку Шаўры і заняўся навукай. Інжынер, гісторык, археолаг, перакладчык, краязнаўца, этнограф, бібліяфіл і калекцыянер, знаўца 9-ці замежных моў - вось што спалучалася ў гэтай даравітай асобе. Адным з першых пачаў весьці на Беларусі археалагічныя раскопкі. За 50 год ён сабраў унікальную бібліятэку па гісторыі Літвы (так тады называлася Беларусь), многа рукапісаў і выпісак з архіваў, што дазволіла яму выдаць дзевяцітомную "Гісторыю літоўскага народа". Акрамя таго, адшукаў і ўвёў у навуковае ўжываньне каштоўныя гістарычныя зьвесткі. Менавіта дзякуючы яму, ўбачыў сьвет старажытнейшы летапіс "Хроніка Быхаўца". Пісаў Нарбут на польскай мове, бо гэта была на той час афіцыйная мова. Нарбут, як і лепшыя прадстаўнікі беларускага народа, не мелі магчымасьці працаваць на беларускай ніве, а таму сваё працаю і талентамі жывілі то польскую культуру (Міцкевіч, Адынец, Крашэўскі, Сыракомля, Чачот, Почобут, Наркевіч, Ажэшка), то рускую (Спасовіч, Дастаеўскі, Глінка), ці іншых народаў (Дамейка).

Амаль уся творчая тэматыка яго навуковых працаў тычыцца роднай Літвы. Чырвонай ніткай у іх праходзіць любоў да роднага краю.

Далёка не ўсё ў яго працах навукова абгрунтавана, а нават сёе-тое, як сцьвярджаюць сучасьнікі, напісана памылкова, ці непрафесійна. Гэта можна апраўдаць, бо яго дасьледаваньні праводзіліся без дзяржаўнай падтрымкі, па ўласнай ініцыятыве і за ўласныя грошы. Многія архіўныя матэрыялы яму былі недаступныя, а архіялагічныя працы амаль адсутнічалі.

І ўсё ж працу Т.Нарбута па напісаньню гісторыі Літвы можна параўнаць з працай Карамзіна па стварэньню Гісторыі Расейскай Дзяржавы. Але калі прозьвішча Карамзіна вядома кожнаму школьніку, то пра Нарбута гэтага не скажаш.

Цікавым было і асабістае жыцьцё Т.Нарбута. Маёнтак Шаўры, дзе ён пасяліўся пасьля вайсковай службы, быў невялікі. На малюнку вядомага мастака Напалеона Орды, пазначаным "Шаўры, маёмасьць Нарбутаў", відаць аднапавярховы драўляны крыты гонтай дом. Побач ячшэ адзін невялічкі, магчыма, жылы будынак і гаспадарчыя пабудовы.

У 1818 годзе ў гэтым маёнтку ў якасьці служанкі зьявілася сірата Хрысьціна Падзеўская (1803-1899). Бацька яе Ігнась быў удзельнікам паўстаньня 1794 года. Хрысьціна была энэргічнай і працавітай дзяўчынай, якая добра разьбіралася ў гаспадарчых справах. Т.Нарбут, заняты навуковай працай, у хуткім часе прызначыў яе эканомкай і даручыў весьці ўсю гаспадарку ў маёнтку.

У 1831 годзе ў час паўстаньня ён дапамагае паўстанцам наладзіць выраб гармат, а таксама распрацоўвае для паўстанцкага генерала Гелгута праект захопу віленскіх умацаваньняў, за што пасьля зьнішчэньня паўстанцаў быў арыштаваны царскімі ўладамі.

Хрысьціна, распрадаўшы статак, з атрыманымі грашыма едзе ў Вільню і, падкупіўшы царскіх чыноўнікаў, дабіваецца вызваленьня Тэадора з турмы. Ад гэтага часу Тэадор зьвязвае сваё жыцьцё з Хрысьцінай. У 1832 годзе ў іх нараджаецца сын Людвіг. Праўда, абвянчаліся яны ў 1840 годзе, калі ў іх было ўжо пяцёра дзяцей. А ўсяго ў іх сям'і было 11 дзяцей, але трое памерлі малымі. Апошні сын Станіслаў нарадзіўся ў 1853 годзе, калі Тэадору было 68 год, а Хрысьціне - 50.

Значнай падзеяй у жыцьці Нарбутаў было паўстаньне 1863 года пад кіраўніцтвам К.Каліноўскага. Яшчэ ў 1862 годзе на сямейным савеце было вырашана ўсёй сям'ёй падтрымліваць паўстаньне. Дом у Шаўрах ператвараўся ў явачны пункт і месца захоўваньня зброі і амуніцыі. Тут хаваліся дзьве гарматы, стрэльбы, порах.

13 лютага 1863 года па загаду Віленскага рэвалюцыйнага камітэту старэйшы сын Тэадора Людвіг быў прызначаны паўстанцкім ваенным начальнікам Лідзкага павета і разам з малодшым братам Балеславам, які стаў яго ад'ютантам, і шасьцю сялянамі адыйшоў у Дубічанскую пушчу, дзе яны пачалі фарміраваць паўстанцкі атрад. Хутка атрад ўзрос да 300 чалавек, у ім былі два рускія афіцэры, некалькі лекараў, сярод афіцэраў быў і вядомы мастак Міхал Андрыёлі.

Ёсьць ускосныя зьвесткі, што ў шэрагах паўстанцаў быў і Ф.Багушэвіч. Вялікі рэзананс сярод ахопленых паўстаньнем мясьцін атрымалі рэйд атрада ў бок Вільні і бітва пад Руднікамі.

Тры месяцы трымаў у напружаньні атрад карныя царскія войскі, пакуль праз здрадніка царскаму палкоўніку Цімафееву не ўдалося выведаць месца знаходжаньня атрада і 5 траўня 1863 года разьбіць яго. У бойцы быў забіты і Людвіг Нарбут, які разам з 12 паўстанцамі пахаваны ў брацкай магіле каля Дубіцкага касьцёла. Рэшткі разьбітага атрада пад кіраўніцтвам Балеслава Нарбута адышлі ў Гарадзенскую пушчу, але 12 траўня былі канчаткова разьбіты на Кадышскай пераправе праз раку Ганчу. З таго часу на месцы Кадышскай пераправы захоўваецца ў добрым стане брацкая магіла, дзе пахаваны паўстанцы. Сам Балеслаў застаўся жывы, але ў хуткім часе быў злоўлены ў ваколіцы Друскенік і адданы пад палявы суд. А потым быў сасланы на катаржныя работы ў Іркуцк. Пасьля амністыі ў 1880 годзе Балеслаў вярнуўся ў Шаўры, дзе і памёр у 1889 годзе.

Апроч Людвіга і Балеслава актыўнай удзельніцай паўстаньня была сястра Тэадора, якая пасьля яго паржэньня ўцякла ў Парыж, а потым пераехала ў Кракаў, дзе памерла ў 1925 годзе.

Яшчэ адзін сын Нарбута, Францішак (1845-1892) прымаў актыўны ўдзел у паўстаньні ў якасьці капітана Узброеных Сіл у Вільні. Яму таксама ўдалося па задушэньні паўстаньня ўцячы да Парыжу. Францішак потым пераехаў у Вугоршчыну і працаваў інжынерам на чыгунцы.

За падтрымку паўстанцкага атрада амуніцыяй і правіянтам, "за плохое воспитание семьи" адстаўны інжынер-капітан Тэадор Нарбут і яго жонка Хрысьціна асабіста генерал-губернатарам Мураўёвым былі прысуджаны да цяжкага пакараньня: "Сослать в Сибирь, а имение конфисковать в пользу правительства, дом, для примера и устрашения других, должен быть уничтожен и место распахано плугом". Вось так, каб ніякага сьледу не засталося ад іх на зямлі.

Абставіны крыху зьмянілі план выкананьня злачыннага прысуду. Старыя бацькі паўстанцаў былі разлучаны: Хрысьціна - выслана ў Пензенскую губернію, а цяжка хворы Тэадор - пакінуты пад паліцэйскім наглядам у Вільні, дзе і памёр 15 лістапада 1864 года. Пахавалі Т.Нарбута каля бліжэйшага да Шаўраў парафіяльнага касьцёла ў Начы, дзе і сёньня дагледжаная вернікамі, захоўваецца яго магілка.

Хрысьціна ў 1874 годзе вярнулася ў Шаўры, дзе і памерла ў 1899 годзе. Пахавана на Шаўрынскіх могілках разам з сынам Балеславам.

Яшчэ ў Нарбутаў быў сын Станіслаў, якому падчас паўстаньня было 10 гадоў.

Ён скончыў у 1879 годзе Мюнхенскі ўніверсітэт і атрымаў ступень доктара медыцыны. Працаваў прыватным доктарам у Брэслаўлі.

Падчас Першай сусьветнай вайны быў мабілізаваны ў войска. Ў адной з ваенных кампаній быў цяжка паранены. Яму аднялі нагу. У 1919 годзе ён вярнуўся зноў у Брэслаўль. Да самай сьмерці самаахвярна лекаваў людзей. Удзячныя браслаўчане пасьля сьмерці (1926 г.) пахавалі яго на самым высокім месцы браслаўскага замчышча, а на сабраныя грошы паставілі помнік-стэлу ў яго гонар, якая і цяпер там стаіць.

Гарадзеншчына памятае сваіх самаахвярных дзеячоў.

Да 130-годдзя з дня сьмерці Тэадора Нарбута і юбілею паўстаньня 1863-1864 гг. на Шаўрынскіх могілках па ініцыятыве старшыні Гарадзенскай абласной краязнаўчай асацыяцыі сп.Андрэя Майсяёнка і намесьніка старшыні Воранаўскага райвыканкама Мікалая Кузьміча, а таксама мастакоў Алеся Дронца і Сьцяпана Янкоўскага пры ўдзеле працаўнікоў калгаса "Сьветлы шлях" Воранаўскага раёна на чале з яго старшынёю быў пастаўлены памятны знак у выглядзе вялізнага валуна з прымацаванай да яго дошкай з лаканічным надпісам: "1864-1989 гг. Сям'і Нарбутаў. Нашчадкі".

У музеі Радунскай сярэдняй школы адкрыта экспазіцыя, прысьвечаная сям'і Нарбутаў.

Двойчы (у 1989 і 1992 годзе) ў іх Радзіме праходзілі навуковыя канферэнцыі, так званыя "Нарбутаўскія чытаньні", на якіх зьбіралася шмат навукоўцаў не толькі з Гарадзеншчыны і з усяе Беларусі, але і з Летувы, Расеі, Польшчы.

У іх прымаў дзейны ўдзел прафесар Андрэй Мікалаевіч Нарбут, загадчык кафедры Маскоўскага аўтамабільна-дарожнага інстытута, нашчадак Нарбутаў, а таксама ўнучка Станіслава і праўнучка Тэадора - доктар медыцыны з Варшавы Яніна Гелерт. Яна падаравала мясцоваму музею чапец сваёй маці, які яна насіла ў Казахстанскім лагеры, куды была саслана бальшавікамі.

**А.ТАЛЕРЧЫК,**
сябра Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі;
**А.МАЙСЯЁНАК,**
Старшыня Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі.

# БАРЫС КЛЕЙН: «Я АДЧУВАЮ ПАЧАТАК...»

**(Заканчэньне. Пачатак у N39).**

**- З кім-небудзь з мясцовых уладных вы дзяліліся гэтымі ідэямі?**

- Не, таму што я не ведаю, да каго зьвяртацца, ды і ці варта гэта рабіць. Успамінаю ўрокі мінулага...

...Дзейнічаючы саматуж, без якіх - кольвечы сродкаў, Барыс Самуілавіч Клейн там, у Амерыцы, рабіў што мог для накіраваньня інвестыцый у рэспубліку, наладжваў культурныя і навуковыя сувязі. Вёў перамовы з амерыканскімі бізнесменамі, арганізаваў дзьве групы дзелавых людзей, гатовых выехаць на Беларусь і ўкласьці свае капіталы ў эканоміку рэспублікі (толькі зьмена сьпікера парламенту і путч у Маскве часова прыпынілі іх выезд). Сабраў невялікую суму валюты для ўзнаўленьня Міцкевічскіх мясьцін...

Трэба зразумець умовы, у якіх ён гэта рабіў, і ўлічваць псіхалогію амерыканцаў. Мой субяседнік расказаў, як адзін мільянер запрасіў яго на абед, каб у нязмушанай гутарцы паболей даведацца пра Беларусь і пра магчымасьць інвеставаньня сюды сваіх сродкаў. Размова атрымалася цікавая, але потым амерыканец, нібы між іншым, спытаў: "Скажыце, містэр Клейн, вы за сваю працу атрымліваеце якія-небудзь грошы ад беларускага ўраду?" Барыс Самуілавіч адказаў праўду: "Не". І адразу заўважыў, што цікавасьць да яго і яго прапаноў з боку бізнесмена прыкметна зьнізілася. Амерыканец проста не паверыў, што такой сур'ёзнай справай - арганізацыяй інвестыцый у рэспубліку - можна займацца на "общественных началах".

Ёсьць над чым падумаць, ці не так? Ці маем мы права ігнараваць людзей, якія б маглі многае зрабіць для нашай рэспублікі, але пазбаўлены магчымасьцьця прымяніць свае сілы?

І ўсё ж у Горадню Барыс Самуілавіч прыехаў не з пустымі рукамі. Прывёз ідэю стварэньня "Шляху Касьцюшкі" і першапачатковую суму ў доларах для адраджэньня сядзібы вялікага земляка. Тадэвуш Касьцюшка - нацыянальны герой Амерыкі і Польшчы. Прыйшла пара аддаць яму даніну павагі і на Радзіме.

У дні, калі Б.С.Клейн гасьцяваў на Радзіме, яго можна было сустрэць у розных мясьцінах: у дзяржуніверсітэце, бібліятэках, грамадзкіх фондах, Саюзе палякаў, у беларускіх банкіраў... Да ўсяго яму ёсьць справа, за ўсё баліць душа...

**- Барыс Самуілавіч, я зьдзіўляюся вашай актыўнасьці і жыцьцяўстойлівасьці. Няўжо не засталося пачуцьця горычы, жаданьня адпомсьціць за ўсе вашыя крыўды? Ніхто ж так і не прынёс вам прабачэньня за дарэмна патрачаныя гады вашага жыцьця.**

- Ніякіх прабачэньняў я не чуў. І хаця вы маеце рацыю, бо як мінімум восем гадоў былі загубленыя дарэмна, я хачу бы адыйсьці ад гэтых думак. Жыць толькі мінулым немагчыма, асабліва ў такой сітуацыі. Адно скажу: тады ў глыбінях душы жыло адчуваньне канца. А цяпер зьявілася іншае пачуцьце - адчуваньне пачатку...

**- Але чаму? Чаму напрыканцы шасьцідзесятых, калі становішча ў грамадзтве выглядала куды больш добраспрыяльна, вамі і вашымі сябрамі валодаў такі глыбокі песімізм, а сёньня, калі навокал сапраўды разбурэньне і галеча, вы мяркуеце інакш?**

- Таму што я бачу пачатак адраджэньня. Я не магу вызначыць свае матывы, але, можа быць, галоўнае, што падсілкоўвае мой аптымізм, - гэта людзі. Я бачу зусім іншых людзей. Не, яны не зламаныя бедзтвам. Яны не развучыліся сьмяяцца, яны многае зразумелі і шукаюць выйсьце. Канешне, яшчэ амаль ніхто не ведае, з якога боку брацца за справу. Але, мне здаецца, людзі паверылі ў свае сілы, зразумелі, што ніхто іх не выратуе акрамя іх жа саміх. Гэты пералом у сьвядомасьці людзей, на мой погляд, - самае галоўнае. Паглядзіце: яны перасталі шукаць тых, на каго можна скінуць віну за сёньняшні крызіс. Іх больш хвалюе, дзе прыкласьці свае сілы і як выжыць... Таму не варта хаваць нацыю, якая зьяўляецца выключна жыцьцяздольнай.

**- Для такога сцьвярджэньня ёсьць нейкія падставы?**

- Не магу сабе ўявіць, каб іншы народ, прайшоўшы праз Чарнобыль, зьбяднелы і абрабаваны, мог бы так добра выглядаць, захоўваць чалавечую годнасьць, падаўляць у сабе агрэсіўнасьць. Я нават не ўпэўнены, што гэта ўдалося б, скажам, амерыканцам, калі б яны трапілі ў такое становішча.

Ведаеце, некаторыя рэчы за мяжой пачынаеш адчуваць асабліва востра. За гэтыя гады я зразумеў, што беларуская нацыя пры ўсіх яе бедах - адна з самых сьцібласьнейшых у сьвеце. Бо галоўнае, што ўдалося захаваць, - беларускі нацыянальны характар, роўнага якому, на мой погляд, няма нідзе. Менавіта жыхары Беларусі адрозьніваюцца асабліва беражлівымі адносінамі да іншага чалавека, глыбіннай тактоўнасьцю, дабрынёй, шчырасьцю, высокай ступеньню цярплівасьці і вельмі малой мерою да канфліктнасьці. А яшчэ, магу запэўніць, больш прыгожых людзей, чым у Заходняй Беларусі, я не бачыў нідзе...

**- З якім настроем, з якімі планамі вы ад'язджаеце?**

- Я ад'язджаю з жаданьнем зрабіць максімум таго, што магу для сваёй Бацькаўшчыны. Гэта гучыць голасна, таму што магу я пакуль мала. Але ўсё ж спадзяюся, што пра мяне ўспомняць, калі захочуць выкарыстоўваць мае веды, мой вопыт (цяпер ужо і амерыканскі) і хоць чымсьці дапамогуць у маіх намаганьнях.

І яшчэ адно, запаветнае. Калі лёс абарве маё жыцьцё, то мне хацелася б, каб тут, на Радзіме, хто-небудзь успомніў пра мяне і сказаў прыкладна так: "Ён пайшоў у НАШ лёс і... не вярнуўся..."

* * *

*На сьцяне ў пакоі, дзе мы размаўлялі, вісіць партрэт Барыса Самуілавіча, напісаны вядомым пецярбургскім мастаком М.Дзятлавым у 1968-м годзе. У вачах - глыбокі боль і смутак.*

*І вось гэтыя ж вочы наяве, толькі праз дваццаць шэсьць гадоў. Яны зусім іншыя! Пытанаючы ў іх, я ўспамінаю Данта: "Vita nuova" - новае жыцьцё...*

**Ала БІБІКАВА.**

